Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 17. Вільня, 12 ліпня 1927 году. Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
| --- | --- | --- |
| Wilno (Вільня), Ціхая вул. 4, (альбо Міцкевіча 15) кв. 20. Тэлефон № 1207 | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2—65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Крызыс бальшавізму і незалежнасьць Беларусі.

Усясьветная камуністычная рэвалюцыя зьяўляецца галоўнаю ідэяй бальшавізму. Правадыры яго, як Ленін, Троцкі, Бухарын і іншыя заўсёды гаварылі: „Калі гэтая рэвалюцыя не пераможа ў іншых дзяржавах, дык савецкая ўлада доўга пратрымацца ня можа і мусіць упасьці пад напорам варожых камунізму сілаў“.

І вось сягоньня, праз амаль дзесяць гадоў ад пачатку бальшавіцкае рэвалюцыі ў Расеі, мы бачым, што ідэя бальшавікоў банкрутуе. Заходняя Эўропа застрахована ад бальшавізму і нават тыя камуністычныя партыі, якія заснавалі бальшавікі ў Эўропе і якім памагалі, сягоньня гніюць і развальваюцца, як стварэньні штучныя. Наймацнейшая Нямецкая камуністычная партыя разьбілася на дробныя групкі. Развал камуністычнае партыі адбываецца ў Чэхаславакіі, у Польшчы, ўсюды. Для Эўропы бальшавізм не падышоў.

Зразумелі гэта ўрэшце і бальшавікі. І вось іх палітыка мяняецца. Усе свае сілы і сродкі яны кідаюць на ўсход. Там яны хочуць выкарыстаць нацыянальныя рухі кітайцаў і індусаў, (разам складаюць 700 мільёнаў людзей), пакіраваць іх на бальшавіцкую дарогу і праз Азію падыйсьці да вырашэньня эўропэйскае рэвалюцыйнае проблемы. Але і на Ўсходзе бальшавікоў чакала няўдача. Кітайская нацыянальная рэвалюцыя, на якую ўскладалі вялікія надзеі ў Маскве, пайшла сваім шляхам і павярнулася процiў бальшавізму, які аказаўся, такім чынам, ізолёваным.

Пачынаецца востры крызыс бальшавізму, які павялічваецца цяжкім эканамічным станам і спрэчкамі сярод правадыроў яго. Процiў Сталіна, фактычнага бальшавіцкага цара, выступаюць Троцкі, Зіноўеў і іншыя. Гэты крызыс паглыбляецца з кожным днём усё больш і пагражаець самому існаваньню бальшавіцкае дыктатуры, якая страціла пад сабою грунт ня толькі сярод народных масаў, але і сярод работнікаў, і нават пэўнае часьці камуністых.

Адначасна з гэтым сярод *беларусаў, украінцаў, грузінаў і іншых народаў паўстаець выразны нацыянальны рух, галоўным імкненьнем якога зьяўляецца пазбавіцца ад апекі Масквы.* Узрастаюць сэпаратыстычныя тэндэнцыі, варожыя бальшавізму і яго цэнтралізму!

І вось у такую мінуту Англія зрывае з Саветамі і гэтым як-бы хоча задэманстраваць перад цэлым сьветам, што яна *ўжо ня верыць* у трываласьць савецкае ўлады.

Сярод бальшавіцкіх правадыроў пачынаецца паніка. Гэтая паніка павялічваецца забойствам Войкава ў Варшаве, Опанскага ў Менску, замахам у Петраградзе, дзе паранена ўзрывам бомбы 26 адказных камуністых, забойствамі камуністых у Маскве і на провінцыі.

Што-ж робяць бальшавікі ў такую небясьпечную мінуту? Яны хапаюцца за самы крайні спосаб барацьбы, за масавы чырвоны тэрор, яны ўваскрашаюць старыя традыцыі „Чэка“ — расстрэлаў бяз суда і нават бяз сьледзтва. Вобыскі і арышты пасыпаліся тысячамі. Хапаюць быўшых афіцароў, чырвоных афіцароў, западозраных у опозыцыі, чырвонаармейцаў, вучоных, настаўнікаў, сялян. Гэтым хочуць уратаваць сябе, забываючыся аб тым, што дзесяць гадоў таму назад чырвоны тэрор быў стыхійнаю зьяваю, бо была рэвалюцыя, вайна і г.д., а цяпер зусім ня тое, цяпер вайны няма, народныя масы проціў бальшавікоў і проціў тэрору, які расцэньваецца ўсімі і зусім правілова, як ад'знака глыбокага крызысу і слабасьці бальшавікоў.

Крызыс бальшавізму прыкоўвае да сябе ўвагу ўсіх. Асабліва ён мусіць цікавіць нас, беларусаў, і украінцаў, бо на выпадак канца савецкае ўлады і камуністычнае дыктатуры, што можа здарыцца зусім нечакана, як калісьці ўпадак дыктатуры Робэсп'ера, перад беларускім народам паўстанець ізноў проблема рэалізацыі беларускае дзяржаўнасьці. Апошнія арышты ў Менску і ў Б.С.С.Р., (арыштована каля 150 сьвядомых беларускіх інтэлігэнтаў і сялян), кажуць, што па тым баку граніцы беларусы ўжо задумаліся аб сваёй будучыні. Паводлуг зусім пэўных вестак, якія мае Рэдакцыя, Г.П.У. выкрыла беларускую арганізацыю, якая мае мэтаю зьніштажэньне савецкага ладу на Беларусі і арганізацыю Беларускай Народнай Рэспублікі. Гэтая арганізацыя, ў склад якое ўваходзіла штат быўшых эс-эраў, распрацавала плян акцыі і нават вызначыла часовы беларускі ўрад. Бліжэйшая будучына пакажаць ці правіловы гэтыя весткі, але адно бясспрэчна, што ў зьвязку з крызысам бальшавіцкае дыктатуры пытаньне адраджэньня незалежніцкіх ідэалаў маець пад сабою грунт. І ў гэтым кірунку пачнець працаваць беларуская палітычная думка, як на Ўсходзе, так і тут на Захадзе.

Крызыс бальшавізму будзе мець вялізарнае значэньне для лёсаў беларускага нацыянальнага руху, бо ўзмоцніць яго актыўнасьць на Ўсходзе, а ў нас створыць падатны грунт для ліквідацыі таго разброду, які пачаўся ў 1923 годзе, дзякуючы інтрыгам бальшавікоў і спарадзіў штучную ўсходнюю орыентацыю некаторых беларускіх дзеячоў, так шкадлівую для незалежніцкіх імкненьняў беларускага народу.

# Гарыслаў.

(Легенда).

Падыйшоў купальны вечар. З усіх пасёлкаў ішлі ў лес людзі. На вялікай паляне, каля рэчкі, хлапцы складалі стосы дзерава для агнёў. Ступнёва паляна пачала напаўняцца народам. Два белыя, як сьнег, старыя селі і пачалі цёрці кавалак сухога дзерава аб другі кавалак, каб адтрымаць сьвяты агонь. Стаўпіліся каля іх мужчыны і жанчыны і прыглядаліся да іх работы...

Вось ужо йдзе з паленаў дым — вось і агонь паказаўся! Усе радасна пачалі запальваць трэскі і разносіць агонь па стосах...

Хутка ўся паляна асьвяцілася палаючымі стосамі. Пачаліся гульні. Моладзь скакала праз агонь; некаторыя праскоквалі шчасьліва, а другія падалі насамі ў зямлю. Сьмех грымеў па паляне.

Потым дзяўчаты пачалі плясьці вянкі. Хлапцы, пахаваўшыся за дрэвы, прыглядаліся да іх. Вось сплялі дзяўчаты вянкі і йдуць да рэчкі. Скланяюцца над вадою і пушчаюць вянкі на яе. Вянкі плывуць...

Тут выскакваюць хлапцы і доўгімі жэрдкамі стараюцца дастаць вянкі. Два з іх кіруюць тычкі да аднаго вянка. Вось адзін ужо быў злавіў вянок, але выпусьціў. Другі піхануў яго і таксама хацеў дастаць вянок. Але той выкруціўся і паплыў па рацэ. Хлапец пабег з тычкаю па беразе, але вянок раптам неяк згінуў... Разьлёгся плач дзяўчыны...

— Мой вянок, мой вянок... утапіўся — плакала яна, — не дажыву я да канца гэнага году! Бедная я!

— Ня плач, Багуміла, — цешылі яе другія, — можа багі і зьмілуюцца над табою.

— Багуміла, я цябе кахаю! — сказаў харошы дзяцюк, выступаючы з-за куста, — ня плач!

— А, гэта ты, Стаян, — праз сьлёзы усьмяхнулася дзяўчына: — але што-ж з твайго каханьня, калі мой вянок затануў?

— Нічога, я цябе і ад сьмерці адаб'ю: сам лепей галаву палажу!

І пашлі да агнёў, гаворачы.

З-за куста выступіў дзяцюк з чорнымі валасамі, такімі-ж вусамі і над-падзіў харошым тварам. Але вочы яго неяк злавешча палалі; гэта шоэціла яго.

— Пашлі!... — сьціснуўшы кулакі, прашыпеў ён, — але я цябе, красуля, адаб'ю ад яго!

І пабег да агнёў, дзе стаялі Стаян і Багуміла. Яна ўжо зусім павесялела і весела гаварыла з Стаянам.

# АБ НАШЫМ САМАЎРАДЗЕ.

Нядаўна польскі ўрад выдаў загад аб роспуску старых самаўрадаў і аб вызначэньні выбараў у новыя. Цяпер якраз будзе да рэчы крыху ўспомніць аб тым, як выбіралася і працавала наша рада Пастаўскае воласьці некалькі гадоў назад.

Што самаўрады маюць вялізарнае значэньне ў гаспадарчым і культурным жыцьці нашага краю, добра вядома кожнаму. Справы палепшаньня вясковых гаспадарак, адбудова зьнішчаных вайной будынкаў, агульная і агранамічная асьвета і многа іншых справаў належыць да компэтэнцыі самаўраду. Дык вось, каб належна выпаўніць гэтыя заданьні, самаўрады перш за ўсё павінны быць запраўднымі самаўрадамі, самаўрадамі не на слове, а на дзеле, ў жыцьці. Але-ж, нажаль, нашыя самаўрады дагэтуль стаялі вельмі далёка ад гэтага

І вось трэба сказаць, што наш самаўрад, маючы так многа працы ўва ўсіх галінах грамадзкага жыцьця, апрача пастановаў на розныя валасныя падаткі і дадаткі, бадай што не рабіў нічога. Аднак, такая праца нашае валаснoе рады яшчэ не азначае, што ў нашай радзе сядзелі неадпаведныя да працы людзі. Наадварот, тут былі нават вельмі здольныя адзінкі, але працаваць так, як трэба, ня было магчымасьці.

На першых паседжаньнях валаснoе рады, некаторыя з радных вельмі шчыра баранілі свае, зусім слушныя, прапановы і пастановы, але ўсё надарэмна. Павятовы стараста адным росчыркам пяра „veto!“, усе неадпаведныя, паводле яго зданьня, пастановы нашае рады, рабіў няважнымі, і такім парадкам вельмі часта пастановы нашае рады ішлі на марна. А радныя тады трацілі ахвоту да працы і набіраліся пераканаcivньня, што хоць-бы пры найвялікшым жаданьні яны зрабіць у радзе нічога ня змогуць.

Тут трэба яшчэ заўважыць, што валасная рада ў сваёй працы так абстаўлена рознымі артыкуламі, ды параграфамі, што ня мае ніякай магчымасьці выявіць сваю самаўрадовую ініцыятыву.

Пан стараста кожную пастанову валаснoе рады можа падвясьці пад адпаведны артыкул, паводле каторага яна будзе зьяўляцца „przekroczeniem“ компэтэнцыі самаўраду. Нават у выпадках браку гэткіх артыкулаў, каб прызнаць пастанову валаснoе рады няважнай, усё такі будзе так, як хоча п. стараста.

Для прыкладу возьмем хоць-бы такія дробныя, але для мясцовага сялянства вельмі важныя факты: валасная рада ухваліла наняць валасную пошту і на ўтрыманьне гэтае пошты хацела ападаткаваць усю зямлю, але п. стараста на гэта не згадзіўся, апіраючыся на тое, што пошта ёсьць павіннасьцю конскай, дык на гэту рэч трэба налажыць падатак на коні; або: валасная рада лічыць, што ўсе дарогі павінны папраўляць тыя асобы, праз чыю зямлю яны праходзяць, а п. стараста з гэтым не згаджаецца і пры помачы павятовага сойміку, вызначае на кожнага каня так зв. „шарварк“ на некалькі дзён бяз ніякае аплаты.

Многа падобных пастановаў праходзіць і праз павятовы соймік, але-ж там дык яшчэ горш, чым у валаснoй радзе, бо нашыя прадстаўнікі ад валасных радаў у гэны соймік, на пытаньне, як яны там пра-

---

— Багуміла, —падыйдзі да мяне; я хачу нешта сказаць табе,—сказаў прыбыўшы дзяцюк.

Тая падыйшла да яго.

— Ты ведаеш што?... ведаеш: я хачу, каб ты была маёй, — толькі маёю! Гора кожнаму, хто будзе падыходзіць да цябе!—казаў ён.

На твары ў дзяўчыны вымаляваўся страх.

— Гарыслаў, што ты кажаш!—прашаптала, — я баюся цябе!

— Баішся—гэта добра; я табе от загадваю, каб ты больш ні з кім, апроч мяне, не стаяла, — чуеш?

— А я не хачу!—запратэставала дзяўчына, — што я твая жонка, што ты мяне трымаць каля сябе будзеш?

І скочыла да агню. Гарыслаў падыйшоў і стаў таксама там недалёка ад яе.

— Людзі добрыя, бацька і маці мае! — пачала дзяўчына: — вось два хлапцы закахаліся ў мяне, бачыце — Стаян і Гарыслаў! Абодва для мяне добрыя, але я адна, і магу належаць толькі да аднаго. Той будзе маім мужам, хто мне сёньня прынясе кветку папараці. А без яе я і слухаць нікога не хачу! Кажу гэта перад усімі!

Людзі, стоячы каля агню, слухалі ўважліва яе. Як яна скончыла, зьвярнуліся да хлапцоў:

— Праўда, што яна сказала?—спыталіся ў іх.

— Праўда!—сьмела адказаў Стаян: — я люблю гэную дзяўчыну!

Гарыслава аж перавярнула ад гэных слоў.

— І я кахаю яе!—сказаў ён.

— Дык вось,—адазваліся ўсе—пайдзеце зараз у лес і прынясеце ёй кветку папараці. Тады зараз і вясельле справім — пагуляем!

Стаян ня стаў доўга чакаць і, адыйшоўшы ад агню, згінуў паміж дрэвамі; Гарыслаў таксама пайшоў, толькі ў другі бок. Доўга яшчэ бачыў Стаян агні і чуў песьню Купалы:

«Купала ты, Купала
Дай мне катлы золата»...

Паступова песьні даляталі да яго штораз нявыразьней,—у вачох сьціхлі зусім. Цемната аблягала Стаяна. Ен стаў, глянуў на неба—там сьвяцілі зоркі і як-бы ўсьмяхаліся да яго. Шумеў цёмны бор. Стаян успомніў аб нячыстай сіле, каторая сьцеражэ папараць у гэную ноч, але не спалохаўся. Рушыў далей.

цуюць, адказвалі, што іх вызываюць туды толькі падпісаць «uchwały», а гаварыць там нічога не дадуць, тады як у радзе валаснай можна было і пасварыцца, а часам, як бывала ў радзе Пастаўскае вол., падчас гэнае сваркі і кулаком па стале пастукаць.

А сколькі сыло клопату з выбарамі Пастаўскае валаснае рады, а таксама і з выбарамі войта гэтае валасьці! Праўда, валасную раду выбіралі толькі два разы, бо першыя выбары стараста ўняважніў, ссылаючыся на тое, што яны былі неправідлова праведзены. Але вось, калі прыйшоў час выбіраць войта, дык тут аж у цэлай валасьці не знайшлося адпаведнага на войта чалавека! Тут валасная рада выбірала войта аж тры разы, дык усё нацарэмна,—кандыдаты былі неадпаведныя. Перш раз рада выбрала грам. А. Вілейшу, але чамусьці ён не спадабаўся пану старасьце і ня быў зацьверджаны. Другі раз выбірала за войта гр. М. Чарэнку і гэты так сама прыйшоўся не да спадобу п. старосьце. Нарэшце трэці раз быў выбраны грамадз. Я. Красоўскі, але-ж і гэты аказаўся неадпаведным на войта! Дык на чым-жа апіраўся п. стараста, не прызнаючы выбраных валаснюю радаю кандыдатаў на войта? Здаецца, што адказу шукаць ня трэба, бо ўсе гэтыя грамадзяне зьяўляюцца беларусамі, а, як вядома, дагэтуль беларусу месца у самаўрадзе ня было.

Дык вось, калі сёньня адбываюцца выбары ў самаўрады, то ўлады павінны пакінуць прычэпкі, а зусім лёяльна адносіцца да самаўрадаў і выбраных людзей незалежна ад нацыянальнасьці.

І толькі ў вынятковых выпадках карыстацца сваім правам „veto“, бо інакш самаўрады трацяць павагу сярод грамадзянства з аднаго боку, а з другога боку паралiжаваньне іх працы падрывае іх аўторытэт. Пара скончыць з благімі традыцыямі і ўстанавіць больш нармальныя адносіны паміж самаўрадамі, а прадстаўнікамі ўлады. *Селянін Чычынка.*

## Гэй, да шчасьця.

Хутчэй, гэй да шчасьця, сьвітае зара
І сонца сьмяюцца нам коскі,
Вітае навокал усё змагара,
Што выйшаў з сярмяжнае вёскі.
Сьвітае і цені паволі лятуць,
Ўжо цемра варожая гіне,
Браты, трэба шчыльна рады нам самкнуць,
Цяпер, доля нас не абміне.
Даволі цярпелі бацькі і дзяды,
Мы ў новую эру ўступілі;
За намі мінуўшчыны слаўнай гады,
Прад намі, спачынку ні хвілі.
Працуем, будуем мазольнай рукой
І хутка спарыцца работа,
І новы наш шлях нашай волі сьвятой
Пакажа, што робіць ахвота.
І зоркі—надзеі праменьні гарац́ь,
Што сьвецяць ў змаганьні за волю;
Наперад усе, ўжо даволі чакаць,
Мы працай здабудзема долю!

*Вітэблянін.*

---

Ісьці было штораз трудней: ляжалі вялікія каменьні, трэба іх было абыходзіць. Абыдзе Стаян з трудом і дзівіцца: то-ж праз камень пераскочыць можна!.. Чорныя страшныя вужы шыпелі пад нагамі ў Стаяна. Але ён ішоў і ішоў... Вось і зарасьлі папараці.

— Што гэта?

Як зорачка, сьвяціўся недалёка нейкі аганёк... Стаян стаў: „Мусі гэта папараць красуе...“—падумаў і стаў адпачыць.

Як толькі ён стаў, дык нейкі цень, што йшоў крок у крок за ім, схаваўся за дрэва... Стаян пастаяў, пастаяў і рушыў ізноў — проста да тае іскаркі, што сьвяціла ў цемнаце...

Цень ня рушыўся з месца і глядзеў, куды пайшоў Стаян. Ён відзеў, як той круціўся па лесе, хоць можна было і проста прайсьці да іскаркі; злазіў у ямкі, каторыя можна было-б пераступіць... Цень глядзеў і дзівіўся.

А Стаян ішоў увесь час уперад, хоць гэта было яму пякельна цяжка. „І адкуль гэта ўсё ўзялося? — пытаў ён сябе,—здаецца тутака нічога гэтага ня было!“ Вось ён блізка да агоньку; цяпер ён выразна ўбачыў, што гэта кветка на папараці...

Тут па лесе пранёсься страшны вецер; дрэвы гнуліся і трашчалі; чорныя хмары закрылі яснае неба З па-за дрэваў пачалі выходзіць — кроў застыла ў жылах у Стаяна — нейкія патворы: адныя былі падобныя на шкелетаў чалавечых, другія—чорныя з рагамі на галовах, трэція—няведама да чаго падобныя: галава конская, цела як у чалавека, а ногі авечыя... Больш і больш гэных зданяў. Страшна гарац́ь іх вочы і выюць яны страшнымі галасамі. І за сабою пачуў Стаян сьмех, плач і сьвіст... Вось нехта штырхануў яго з-заду. Хацеў аглянуцца, ды ўспомніў, што ня можна — згінеш. І йшоў далей. Вось папарац́ь блізка—трэба толькі выцягнуць руку і ўзяць. Раптам, як загрыміць за Стаянам, ды так, што той мала ня ўпаў. Ступіў яшчэ крок, выцягнуў руку да кветкі, а тут вуж падскочыў да яго рукі... Чуць Стаян не падаўся назад, але кветку ўхапіў. Запякла яна яго страшна і сіла нячыстая кругом завыла... і прапала ўсё. Недзе і пятух, чутна, прапеяў.

— „Ну, каб троха яшчэ — ня меў-бы я кветкі! — думае шчасьлівы Стаян, трымаючы яе ў руках, — пятух прапяе і ўсё прападае да другога году, кажуць!“

Радасна варочаўся ён назад, нясучы кветку о рудэ. У лесе было ціха і спакойна; і йсьці былў

# З Украінскага жыцьця.

## ЗЬЕЗД ПЯТЛЮРАЎЦАЎ У КРАКАВЕ.

Нядаўна адбыўся зьезд пятлюраўцаў у Кракаве, на якім было каля 100 дэлегатаў.

Факт гэты сьведчыць аб ажыўленьні незалежніцкае думкі пятлюраўцаў, якія да гэтага часу не праяўлялі ніякага жыцьця.

Па праслуханьні рэфэратаў, зьезд ухваліў гэткія рэзалюцыі:

а) Украінскі народ пад бальшавіцкай окупацыяй на Украіне не загубіў сваіх дзяржаўна-палітычных ідэалаў, а ўпорлівай барацьбою змусіў маскоўскіх окупантаў лічыцца з яго воляй.

б) Маскоўска-бальшавіцкая ўлада, якая абвясьціла права самаазначэньня народаў, у адношаньні да украінскага народу і яго дзяржаўна-палітычных ідэалаў стаіць на грунце еднасьці Расеі, і еднасьць гэту правяла праз сваіх агентаў у Харкаве на шкоду найбольш-жыцьцёвых інтарэсаў украінскага народу.

в) Гэтак званы украінскі ўрад у Харкаве, як прылада ў руках маскоўскіх „едино-неделимовцев“ — сьлепа выконваў волю окупантаў на Украіне, а дзеля гэтага мусіць панясьці поўную адказнасьць перад гісторыяй і народам за тыя страшныя палітычна-соцыяльныя экспэрымэнты над украінскім народам, за тэрор і бязьвінна пралітую кроў, за нішчэньне украінскіх культурных і эканамічных вартасьцяў, дэморалізацыю душы народу, а асабліва моладзі.

г) Тыя народныя меншасьці на Украіне, каторыя без усялякіх засьцярогаў сталі па старане окупантаў, давялі яшчэ раз украінскаму народу, што яго імкненьні да дзяржаўна-незалежнага жыцьця чужыя ім.

Дзеля гэтага зьезд:

а) выражае пагарду здраднікам інтарэсаў украінскага народу г. зв. харкаўскаму ўраду і яго прыхільнікам,

б) перасьцерагае народныя меншасьці на Украіне ў імя іх-жа ўласных інтарэсаў перад іх проціукраінскай палітыкай,

в) схіляе галаву перад тымі барацьбітамі на Украіне, каторыя ў цяжкіх абставінах окупацыйнае сыстэмы патрапілі захаваць свае дзяржаўна-палітычныя вартасьці і, крок за крокам здабываючы пазыцыі ворага, аддавалі жыцьцё свае за ідэю украінскай дзяржаўнасьці,

г) зьвяртаецца да ўсяе украінскае эміграцыі, яе палітычных кіраўнікоў і да кіраўнікоў украінскай дзяржаўнай палітыкі з заклікам да далейшае палітычнае акцыі дзеля апошняе перамогі над ворагам.

У канцы зьезд пастанавіў:

а) Катэгорычна запратэставаць перад цэлым сьветам проціў нэгацыі права украінскага народу на самастойнае дзяржаўнае жыцьцё прадстаўнікамі расейскага народу ад камуністых да монархістых уключна,

б) запратэставаць проціў акцыі неадказных групаў украінскай эміграцыі, якія імкнуцца да ганебнага паразуменьня з блізкімі ім часткамі расейскай палітычнай думкі на шкоду украінскага народу,

в) энэргічна запратэставаць проціў абвінавачаньняў украінскага народу ў жыдоўскіх пагромах. Зьезд перад цэлым культурным сьветам сьведчыць аб праўдзе, што ў пагромах не вінават украінскі ўрад, 

---

лёгка—дзе падзеліся каменьні, ямы і гнілыя пні, што так нядаўна загароджвалі яму дарогу?...

Ідзе Стаян, сэрца з радасьці мала з грудзей ня выскачыць, аж... пачуў боль страшны ў левым баку. Адначасна нейкая рука схапіла за кветку і Стаян, падаючы, пазнаў як-бы праз туман Гарыслава.

У гэты час стары ведзьмар варочаўся да хаты з ворахам траваў пахнючых пад пахаю і за плячыма. Ішоў і падалося яму, што як-бы чалавек прабег каля яго. Ступіў яшчэ крок і мала ня ўпаў, паткнуўшыся аб нешта.

„Што гэта можа быць“? — спытаўся сам сябе і, схіліўшыся, паўсьляпымі вачамі пачаў разглядаць у сябе пад нагамі. „А то-ж чалавек—і як ён сюды папаў?!... Забіты“! — церав хвіліну сказаў ізноў, пачуўшы пад пальцамі кроў...—„А можа яшчэ жыве“?... І, прылажыўшы вуха да грудзей ляжачага, слухаў... — Жыве! — трэба кроў замовіць!“ Пачаў шаптаць нейкія незразумелыя словы, робячы ўсялякія знакі над целам. Потым ён падняў цела, ўзваліў сабе на плечы,— адкуль і сіла ў такім слабым на пагляд старым чалавеку?—панёс.

Стаян абудзіўся і хацеў падняцца, як калючы боль пачуўся ў левым баку. Адначасна ўчуў голас: „Ляжы, ляжы, а то памрэш! Добра, што і так не памёр!“ Стаян павярнуў галаву і ўбачыў старога чалавека з доўгімі-доўгімі валасамі і барадою, апранутага ў нейкі дзівачны белы каптан.

Ён сядзеў на кавалку дрэва каля яго і трымаў нейкія травы на каленях.—„Ведзьмар, ці што“? — падумаў Стаян і стаў разглядаць памяшчэньне, дзе ён ляжаў. Гэта была невялікая хатка, зложаная з тоўстых яловых круглякоў. У страсе была выраблена дзіра, а ў аднэй з сьценаў прарублена акно. Усюды па сьценах віселі пучкі траваў; адныя з іх былі ўжо сухія, другія толькі што, мусі, былі павешаны. Ад усяго гэнага зельля расходзіўся па хаце вельмі прыемны пах. Але Стаяну ад яго хутка пачало круціцца ў галаве. Стары заўважыў гэта і, ўстаўшы, ўзяў маленькі гліняны слоічак з нейкаю жыжкаю і даў з яго піць Стаяну. Той адразу пачуў сябе лепей і спытаўся:

— А дзе я?

— Маўчы, маўчы, потым будзеш ведаць!

І даў Стаяну выпіць з другога слоіка. Стаян выпіў і разам яму захацелася спаць. Вочы яму клеіліся і ён заснуў.

як і украінская армія ані яе правадыр сьв. памяці атаман Пятлюра.

г) Зьезд заклікае ўсю украінскую эміграцыю ў Польшчы да злучэньня каля ідэі украінскай дзяржаўнасьці.

Дзеля гэтага зьезд заклікае эміграцыю да адбыцьця акружных зьездаў і падрыхтаваньня агульнага зьезду украінскае эміграцыі на землях Польшчы.

Рэзалюцыі гэтыя былі прыняты аклямацыяй і бурнымі воплескамі.

### Адраджэньне кабзароў.

1-я ўкраінская капэля кабзароў (бандурыстых), якая робіць турнэ па савецкіх рэспубліках, наладзіла ў Менску 3 канцэрты. Канцэрты кабзароў карысталіся вялікім посьпехам, І не дарма.

Кобза — стары украінскі народны інструмант. Ен мае сваё слаўнае гістарычнае мінулае. У руках мастацкіх выканаўцаў гэты інструмант ізноў ажыў і заваяваў належнае месца ў галіне народнае музыкі.

Капэля кабзароў здалела сваім выкананьнем ня толькі ажывіць народную украінскую песьню, але і зрабіць яе мастацкаю.

Асаблівую ўвагу зьвяртае на сябе тэхніка выкананьня, як музыкі, так і сьпеваў. Над'звычайна добра выконвалася „Думка" Шэўчэнкі і народны сьпеў „12 касароў". Капэля выканала шмат гумарыстычных народных украінскіх песьняў („Чаравічкі" і інш).

## Да нашых корэспондэнтаў!

Рэдакцыя просіць усіх нашых корэспондэнтаў з вёскі прысылаць весткі аб тым, як прайшлі выбары ў валасныя самаўрады, колькі выбрана беларусаў і іншых нацыянальнасьцяў і наогул асьвятляць выбарчую кампанію.

## Масавыя вобыскі і арышты беларусаў у БССР.

Паводлуг тых вестак, якія рэдакцыя адтрымала апошнімі днямі, ў Б.С.С.Р. пачалася хваля вобыскаў і масавых арыштаў сьвядомых беларусаў у Менску і па ўсёй Усходняй Беларусі. Арыштована каля 150 чалавек, пераважная большасьць якіх складаецца з беларускіх настаўнікаў і сялян. Выкрыта арганізацыя, якая маець сваёю мэтаю зьніштажэньне савецкага ладу. Сярод арыштованых шмат былых эс-эраў

Загаворшчыкі мелі добра апрацованы плян акцыі і вызначылі нават часовы беларускі ўрад, які рассылаў анкеты. Частка гэтых анкетаў папала ў рукі Г.П.У. З гэтых анкет відаць, што большасьць адказаў—каля 80 проц.—незадаволена савецкім ладам, а частка выказваець пажаданьне аб далучэньні Беларусі да Польшчы на падставе фэдэрацыі. Выступленьне сялян проціў агентаў савецкае ўлады прымаець усё больш і больш вострыя формы, ў зьвязку з прымусовай конфіскацыяй сялянскага інвэнтару за неплацёж падаткаў.

## СЬМЕХ і ЖАРТЫ.

Бацька да сына: Вазьмі сабе, мой хлопча, прыклад з свайго дзядзькі Пранцiся. Прыехаў у горад, меў на нагах падзёртыя чаравікі, а сёньня дык мае мільён!

— Божа, вялікі! А хто-ж гэта яму іх чысьціць будзе і нашто яму гэтулькі чаравікаў?..

Прачхнуўся — ізноў убачыў таго самага дзівачнага старога каля сябе, як-бы ён нікуды і не адыходзіў.

— Што, добра чуешся?—спытаўся стары.

— Лягчэй, болю няма!—адказаў Стаян.

— А ведаеш, адкуль твой боль?—ізноў сказаў стары; — ты палюбіў дзяўчыну, але яе любіў другі. Уночы на Купалу ты пайшоў па кветку папараці для яе; той таксама пайшоў, але папараці шукаць пабаяўся і стаў пільнаваць цябе. Як ты йшоў каля яго з кветкаю, — ён усадзіў табе нож у бок і ўхапіў кветку...

— Прапала мая Багуміла: злодзей прынясе ёй кветку і яна выйдзе замуж за яго! — прастагнаў Стаян.

— Ня бойся, ня выйдзе яна за яго, хоць і кветку прынёс ён! — сказаў ведзьмар загадкава.

— Значыць — я! — радасна запытаўся Стаян.

— Богам усё ведама!—таямніча адказаў ведзьмар,—але сьпі, табе трэба спаць!

У доме Багумілы рыхтаваліся да вясельля: яна выходзіла за Гарыслава, каторы прынёс ёй кветку. Яна тайна ўздыхала па прапаўшым недзе Стаяне, але была верная свайму слову.

Падышоў вясельны дзень. Дзяўчаты прыбралі Багумілу, злажылі ёй на галаву вянок і пачалі пяяць сумныя песьні. Тут прыехаў малады з дружкамі. Багумілу падводзяць да яго, яна горка плача.

Раптам адчыняюцца дзьверы і ў іх стаіць стары ведзьмар!

Стаян! Чый гэты нож?—пытаецца ведзьмар.

Малады зьбялеў, як хустка... раптам выхапіў з-пад каптана нож — ніхто ня думаў, што ён у такі дзень возьме нож—і па чаранок убівае яго ў грудзі свае нарачонае, а потым, выцягнуўшы—сабе...

Усе, быўшыя ў хаце, крыкнулі са страху; але галасьней за ўсіх крыкнуў Стаян, хапляючыся за грудзі і ўпаў на зямлю няпрытомны. Хата апусьцела, ўсе паўцякалі з яе. Застаўся толькі стары ведзьмар з двама трупамі і бясчулым Стаянам.

— Скончылася ўсё!—сумна казаў ён, — гэтых сьмерць узяла, а гэты хоць жыць і будзе, але розум ня вернецца да яго!...

**Сяргей Белайц.**

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Як адтрымаць доўгасрочную пазычку на інвэнстыцыю.

На аснове правілаў за 14 ліпня 1926 году „(Monitor Polski“ № 192 — 1926 г.), Дзяржаўны Зямельны Банк выдае цяпер доўгасрочныя амортызацыйныя пазычкі ў залатых 8% закладных лістох:

а) на сплату кароткасрочных абавязаньняў, зробленых на гаспадарчыя патрэбы,

б) на сплаты, якія вынікаюць з тэстамэнтных распараджэньняў і сямейных дзельбаў,

в) на трывалыя, ня надта каштоўныя інвэстыцыі, якія маюць на мэце падняцьце гаспадаркі, як: будова, перанос і рэмонт жылых і гаспадарскіх будынкаў, залажэньне садоў, ачышчэньне равоў, лазаводзтва і інш.

Доўгасрочныя пазычкі Дзяржаўнага Банку павінны быць забясьпечаны гіпотэчна на 1-м месцы гіпотэкі, абцяжаранай уласнасьці. У выпадках, калі на перашкодзе выдачы, на вышэй пералічаныя мэты, пазычкі ў закладных лістох, будуць стаяць даўнейшыя гіпотэчныя даўгі, пазычка можа быць выдана ў разьмеры, які зрабіў-бы магчымаю таксама і сплату гэтых даўгоў, паколькі пазволіць гэта ацэнка ўласнасьці.

Доўгасрочнае пазычкі на вышэйназваныя мэты могуць старацца ўласьнікі гіпотэчных зямельных уласнасьцяў з абшарам, які не перавышае асноўных нормаў уладаньня, прадбачаных у арт. 4 Закону 28 сьнежня 1925 году аб выкананьні зямельнае рэформы (Dz. U.R.P. за 9-I-1926 г. № 1), але з тым, што: а) агульны абшар зямлі, якім уладае той, хто стараецца пазычкі, з прыняцьцем пад увагу прадбачаных у арт. 4 і 5 выняткаў, не перавысіць для гаспадарак, паложаных у прамысловых і прыгарадных вакругох — 80 гэктараў, а на рэшце абшару — 240 гэктараў, з выняткам Усходніх земляў, для якіх гэтая норма можа быць павялічана да 400 гэктараў і б), што пяршынство пры адтрыманьні пазычкі маюць меншыя гаспадаркі, дзеля чаго прыманьне пад увагу прашэньняў уласьнікаў гаспадарак большых за 100 гэктараў будзе ўзалежнена ад вырашэньня ў першую чаргу заяваў уласьнікаў меншых уласнасьцяў.

Уласьнікі негіпотэкованае зямлі могуць толькі тады старацца пазычкі, калі выклічуць гіпотэку на сваю ўласнасьць. У сувязі з гэтым зазначаецца, што пры выдаваньні пазычкі на вышэйназваныя мэты, Банк, азначаючы разьмер пазычкі, вазьме пад увагу таксама й кошты, патрачаныя уласьнікам пры выкліканьні гіпотэкі.

Арэндатары сельскіх гаспадарак старацца пазычкі ня могуць.

Землі, абцяжараныя абмежаваньнямі права ўласнасьці, будучыя ў спрэчках, або доўгалетняй арэндзе, ня могуць быць забясьпечаньнем для выдаваных Банкам доўгасрочных пазычак.

Банк мае права адмовіць у пазычцы без паданьня прычын.

Той, хто стараецца пазычкі, павінен падаць прашэньне (паводле установленага Банкам узору) з паказаньнем адрэсу, разьмеру жаданае пазычкі, пэрыяду яе палажэньня, а апрача таго й назову і палажэньня (воласьці, павету) зямельнае ўласнасьці, яе абшару, таксама падробнага азначэньня мэтаў, на якія мае быць ужыта пазычка.

Да прашэньня аб пазычцы на інвэстыцыю трэба далучыць гэткія дакумэнты:

1) поўную выпісь гіпотэчнае ведамасьці (б. расейскі забор);

2) засьведчаную адпаведным валасным урадам статыстычную анкету;

3) полісы страхоўкі будынкаў ад агню за бягучы год;

4) засьведчаныя адпаведным валасным урадам падробныя мотывы замеранае інвэстыцыі, а таксама каштарысы іх.

Пры прашэньні аб пазычцы на сплату даўгоў, а таксама на сямейныя сплаты, трэба далучыць, апрача далучэньняў, пералічаных вышэй, у п. 1, 2, і 3, яшчэ й гэткія дакумэнты:

5) довады, якія сьцьвярджаюць існаваньне даўгоў, альбо абавязку сплатаў, якія вынікаюць з сялянскае дзяльбы,

6) завераную належнымі ўрадамі згоду крэдытараў або сукцэсараў на прыняцьце сплаты іхняе належнасьці;

7) пацьверджанае адпаведным валасным урадам выясьненьне пэтэнта, на якія мэты былі зрасходаваны пазычаныя сумы.

Апрача вышэйназваных дакумэнтаў Банк можа трэбаваць далучэньня пляну ўласнасьці і рэестру памераў.

Пасьля адтрыманьня вышэйпералічаных дакумэнтаў, Банк загадае ацэнку маемасьці·

Ацэнка можа быць зроблена: 1) таксатарам Банку на зямлі і тады на кошты, зьвязаныя з выездам таксатара на месца, трэба ўнясьці за абшар да 25 га — 50 злотых, да 50 га—75 злотых, да 100 га—100 злотых, да 150 га—125 злотых, а за кожныя далейшыя 150 га—25 злотых; 2) камэральна г. зн. бяз выезду на месца, а гэта: а) на аснове устаноўленых Банкам сярэдніх нармальных цэнаў на ўжытковую зямлю, ў выдадках, калі жаданая пазычка не перавышае 20 тыс. злотых; альбо б) на аснове прызнаных Банкам дастатачнымі дакумэнтаў (odpisy operatów U.K.Z. копіі кастральных мапаў, разам з выпісяй з матрыкулы зямельнага падатку і кнігі дамовага падатку; аркушы маемасьці і згодныя з імі гіпотэчныя выпісі і інш. да гэтага падобныя).

На аснове ацэнкі маемасьці, Банк выдае пазычкі да разьмеру 1/2 устаноўленай ацэнкі, калі ацэнка зроблена таксатарам на месцы і да разьмеру 1/3 ацэнкі, калі ацэнка камэральная.

Пазычка ня можа быць выдана, калі разьмер яе, азначаны на аснове устаноўленай ацэнкі, дасягаў-бы менш, як 500 злотых золатам.

Пазычкі будуць выдавацца на 10, 20 або на 30 гадоў.

Разьмер паўгадавых ратаў, якімі пазычка будзе сплачвацца, раўняецца разам з амортызацыяй злотым у золаце: а) пры 10 гадовай пазычцы 7 зл. 50 гр. ад кожных 100 злотых пазычкі; б) пры 20 гадовай—5 зл. 6 гр.; в) пры 30 гадовай—4 зл. 43 гр. Апрача таго, пры кожнай раце, будзе брацца дадатак на адміністрацыю ў разьмеры 3/4% ад намінальнае сумы даўгу.

Паўгадавыя раты будуць плаціцца 1 красавіка і 1 кастрычніка штогоду. Закладныя лісты,

адтрыманыя пры гэтых пазычках, цяпер Банкам рэалізуюцца на рахунак даўжнікоў, якія дзеля гэтага адтрымліваюць пазычкі ў гатоўцы.

Уласьнікі гаспадарак, якія стараюцца пазычак з Віленскага і Наваградзкага ваяводзтваў, а таксама з двух паветаў Беластоцкага ваяводзтва (Ваўкавыскі і Горадзенскі), павінны зьвяртацца да Аддзелу Дзяржаўнага Зямельнага Банку ў Вільні (Вільня, Пагулянка 24), а з Палескага ваяводзтва да Аддзелу Дзярж. Зям. Банку ў Луцку, Ягелёнвул. № 107.

## Гадоўля жывёлы на хутарох.

Часта прыходзіцца чуць ад сялян, што хутары, справа добрая, але вось бяда ў тым, што пры хутарскай гаспадарцы гадоўля жывёлы немагчыма, бо няма пашы стольκі, як у вёсцы.—Дзе-ж набрацца ланцугоў ды вяровак, каб усю жывёліну панавязваць, кажуць сяляне.—Добра-ж карову ды каня навязаць, а што-ж рабіць з сьвіньнямі ды авечкамі? На першы пагляд, як быццам усё гэта ёсьць праўдай, што гадаваць жывёлу на хутарох зусім немагчыма. Але калі разгледзім гэтае пытаньне падрабязна і з боку эканамічнага, дык убачым, што гадоўля жывёлы і пры хутарскай гаспадарцы—магчымая. А з дробнай жывёлінай, як авечкі, хоць і трэба абмежавацца ў гадоўлі, але не з вялікай шкодай для гаспадара, бо авечка хоць і кажуць „кругом чалавечка“, як ведама, ніколі няварта таго, што зьесьць узімку. Дык калі ня будзем гадаваць авечкі, нічога не патрацім, ды яшчэ будзем мець эканомію сена на гадоўлю самай неабходнай ў гаспадарцы жывёліны — каня. Гаспадар трохдзесяціннага надзелу зямлі ў вёсцы хоць і меў аднаго каня, адну карову, дзьве авечкі і са дзьве якія сьвіньні, карыстаючыся супольнай пашай—папарам, меў магчымасьць летам прагадаваць сваю жывёлу, але каб пракарміць гэтую жывёліну ўзімку, дык трэба было гаспадару накасіць на старане сена на цэлага каня. А сьвіней гэтак сама нялёгка было выкарміць і селянін змушаны быў аднаго парсюка вязьці на кірмаш прадаваць за поўцаны, не дачакаўшы на сьвіней ходу.

Цяпер возьмем хутар у тры дзесяціны зямлі. Ці-ж датасуем збор ураджайнасьці з трох дзесяцін зямлі вясковай гаспадаркі, катороя раскідана кусочкамі навокал усяе вёскі, да збору ўраджайнасьці тыхжа трох дзесяцін хутарскай гаспадаркі? Можна сьцьвярдзіць, што не. Хай хто спытаецца аб гэтым у хутаршчыка, каторы меў ужо гэткую практыку. Адказ будзе той, што розьніца ўраджайнасьці паміж двума вучасткамі рознага гаспадараваньня і аднолькавай колькасьці зямлі будзе вялізная, бо многа будзе прычын к таму, каб мець лепшую ўраджайнасьць на хутарскай гаспадарцы.

Дрэнны той гаспадар, каторы, маючы зямлю тутжа каля хаты, ня змушаны будзе даглядзець яе, як належыцца. Пасьля пераходу на хутарское гаспадараваньне селянін адчувае сябе нейкім „царком“ у сваёй гаспадарцы і гэтым заахвочваець сябе ісьці па сьлядох культуры, ад чаго павялічыцца і ўраджайнасьць.

Прыкладаў гэткіх ужо маем шмат.

Рэч зразумелая, што ад павялічэньня ўраджайнасьці, павялічваецца і корм жывёлы. Калі пры трох дзесяціннай хутарской гаспадарцы гадаваць авечкі ня прыходзіцца, дык на тым месцы: 1) ад скасаваньня гадоўлі авец, 2) ад улепшаньня ураджайнасьці і 3) ад падсеву вікі ці канюшыны—прагадоўваецца ўзімку конь.

Скасаваньне гадоўлі авечак на трохдзесяцінным хутары ня знача, што ня трэба іх вадзіць па вялікшых хутарных гаспадарках, дзе ня так ходзіць аб эканомію сена.

Гадоўля сьвіней на хутары ня так ёсьць труднай, як гэта аказваецца на першых часох, але патрабуець стараньнейшага дагляду. Напрыклад, у вёсцы гаспадар ці гаспадыня толькі і ведае выгнаць сьвіньні ў поле ды ўвечары пераняць іх, каб загнаць у хлеў. А на хутары сьвіньні трэба навязваць гэтак сама, як навязваецца конь ці карова. Звычайнай пашай для сьвіней ёсьць садок, у каторым сьвіньні навязваюцца на кароткія ланцугі паміж дрэваў з асьцярогай, каб сьвіньні не даставалі тых дрэваў, каторыя могуць абшчапіць ротам, а каб ня рылі зямлі, дык закелзваюць іх спосабам усім ведамым. Да навязкі сьвіньні прызвычайваюцца дужа скора. Ня трэба баяцца змарнаваньня часу на перавязваньне сьвіней, бо калі будзем гадаваць, скажам, пару сьвіней на навязцы, на добрай садовай траве і к гэтаму даваць ім піць памы, дык на палявой пашы чацьвёра сьвіней прынясуць гаспадару менш карысьці, як гэтыя дзьве.

Само сабой разумеецца, што навязваюць сьвіньні ў садку толькі да тэй пары, пакуль ня будуць абсыпацца яблыкі. Якраз у гэтую пару для корму сьвіней пасьпяваець у гародзе варыва, а гэтак сама і бульба, а навязваць сьвіньні можна ў іржышчы, ці дзе ў іншым месцы, а то і зусім зачыняць у хлеў.

З усяго вышэйсказанага відаць, што гадоўля жывёлы на самым невялічкім хутары, як тры дзесяціны, ёсьць магчымай і можна на гэтых трох дзесяцінах свабодна прагадаваць каня, карову і пару сьвіней, ведама-ж прылажыўшы да гэтага веду і працу.

Дык, сяляне-земляробы! Хай гадоўля жывёлы, ня будзе вам перашкодай да пераходу на хутары!

*Янка Тарыкоў.*

## Як зрабіць жывы плот.

Беларусь лічыцца краінай лясоў, але часта нашыя гаспадары маюць клопат, як зрабіць плот, скуль узяць матар'ялу, забываючыся, што можна зрабіць так званыя „жывыя“ платы.

Гэтакія платы зьяўляюцца больш таннымі і больш даўгавечнымі.

Дзеля гэтага ўжываецца цярноўнік (Prunus spinosa), шыпшына (Rosa canina), або баярышнік (Crataegus oxyacantha), які трывае каля 500 гадоў.

Плот з баярышніку вельмі практычны, сукі яго спля-

таюцца так густа, што пралезьці праз яго ня можа самая дробная жывёла.

Але гэтыя расьліны ў нас спатыкаюцца надта рэдка, дзеля гэтага лепш ужываць звычайную жоўтую акацыю (Papilinaceae).

Такі плот будзе ня так доўгавечны, як з баярышніку, але жоўтая акацыя надта хутка расьце, а таксама і дастаць яе насеньне будзе лёгка.

Зрабіць жывы плот з акацыі можна, або праз пасадку сеянцаў, або праз сеяньне насеньня.

Калі хочуць зрабіць плот з сеянцаў, дык купляюць іх у пітомніку і бяруць да 600 штук каранёў на 50 пагон. сажняў.

Лепш будзе садзіць такі плот праз пасадку насеньня.

Дзеля гэтага трэба дастаць насеньне акацыі, фунт якога каштуе каля 1—1½ зл.

Купляючы насеньне, трэба глядзець, каб яно было мясцоваго паходжаньня і найлепш прашлагодняга збору, бо гэткаа добра ўзыходзіць і добра расьце.

Насеньне сеецца або на градзе і пасьля высаджваецца там, дзе трэба, або сеюць проста ў грунт, там дзе патрэбны плот; робіцца гэта звычайна пад восень у жнiўнi месяцы.

Дзеля гэтага ўва ўсю даўжыню плоту, шырынёй каля аршына, перакопваюць зямлю глыбінёй каля 6—8 варш.

У прырыхтованную зямлю насеньне сеецца ў два радкі—шнуры, пасьля прыкрываецца зямлёй таўшчыні ў палец.

Сеяць трэба так, каб адлегласьць між зярнятамі была ня менш двух вяршкоў.

Густыя ўсходы трэба перарываць, вырываючы больш слабыя расьлінкі акацыі.

Калі пасеў пападзе пад засуху, дык трэба хоць рэдка паліваць і пару разоў пракапаць.

Пры добрым даглядзе пад канец лета можна мець акацыйкі да 4—5 вяршкоў вышыні.

На другі год, калі лета дажджлівае і цёплае, сеянцы ўжо дасягаюць аршына вышыні.

На трэці год сеянцы вырастаюць у рост чалавека, тады ўжо трэба іх падрэзваць, каб яны разрасталіся ў шырыню.

Часам пры сеяньні робяць так, што плугам уздоўж плоту праводзяць баразну, кладуць у яе трохі перапрэлага гною (лепш конскага), мяшаюць яго з зямлёй, потым сеюць насеньне, закрываючы яго зямлёй.

У адным фунце насеньня жоўтае акацыі налічваецца каля 1000—2000 зернятаў; значыць пры сярэднім усходзе з фунта насеньня можна адтрымаць каля 500—600 добрых расьлінаў.

Калі падлічым колькі трэба расьлін акацыі, напрыклад для 50 пагон. саж. жывога плоту, дык адтрымаем каля 12 штук (адлегласьць ½ аршына), на адным сажні, пры двухпарадкавам пасеве.

Можна яшчэ садзіць акацыю ў тры рады, гэта будзе яшчэ больш практычным, тады на 50 саж. трэба 900 штук расьлін.

Жывы плот, апрача карысьці, як агароджа, прыносіць і другую карысьць, як добры корм для пчол. Плот у 100 саж. даўжыні можа карміць каля 5 вульлёў.

Далей, такі жывы плот бароніць агарод ад халодных паўночных вятроў, у сухую пагоду дае вільгаць, зімой бароніць ад сьнегавых заносаў, а летам, у гарачыню, дае добрае месца для схову быдла.

Акацыя, як вядома, належыць да сямейства матыльковых (Papilionaceae) і дзеля гэтага ня толькі не патрабуе ўгнаеньня, але яшчэй папраўляе зямлю, бо ўсе матыльковыя кормяцца азотам, бяручы яго з паветра, і даючы азотныя складнікі зямлі, пры дапамозе вузялкоў, якія знаходзяцца на іх карэньнях.

У канцы можа паўстаць пытаньне, як лепш разьвясьці акацыю—ці сеяньнем насеньня, ці пасадкай сеянцаў?

Калі плот патрэбны ня зараз-жа, які будзе праз 3—4 гады (гэта і таньней каштавала-б), тады найлепш сеяць насеньне; калі хочацца мець такі плот у хуткім часе, дык можна рэкамэндаваць пасадку, плот будзе гатовы ўжо праз 1—2 гады.

Можна яшчэ браць ад старых кустоў акацыі па 5—8 чаранкоў (маладых пасынкаў), якія, як і маліна і агрэст, пасаджаныя ў сырую зямлю, добра прымаюцца і часта могуць замяніць сеянцы з градак.

За граніцай (у Нямеччыне, Францыі, Расеі, асабліва ў Сыбіры), а таксама і ў нас на Беларусі, па дварох, жоўтая акацыя, як агароджа, вельмі распаўсюджана.

Ёсьць яшчэ гатунак белае акацыі, але яна расьце, як дрэва і амаль што ня кусьціцца, дзеля гэтага белая акацыя не падходзіць на жывы плот.

Культур-тэхнік і аграном
*Я. Х.*

# Гаспадарчыя парады.

## Няўдалая карова.

**Пытаньне:** Маю 8-гадовую зусім здаровую карову і не магу адтрымаць ад яе прыплоду. Цяляты ад яе звычайна пасьля году дастаюць скулу пад сківіцаю і здыхаюць. Прашу рады.

**Адказ:** З апісаных праяваў відаць, што цяляты ад гэтае каровы хварэюць сухотамі, або праменьніцаю; на выгляд карова гэтая можа здавацца здароваю. Неабходна добрае зравідаваньне гэтае каровы вэтэрынарным лекарам.

## Кашаль у каровы.

**Пытаньне:** Маю карову 4-х гадоў, якая ўжо цэлы год кашляе. Зімою ня кашляла, а цяпер кашляе ізноў. Што рабіць?

**Адказ:** Усялякі кашаль у каровы заўсёды рэч вельмі падазронная, дзеля таго, што гэта можа быць праяваю сухотаў, а тым болей, калі ў даным выпадку ён цягнецца даволі доўга. Безварункова радзім зараз-жа зьвярнуцца да найбліжэйшага вэтэрынарнага лекара і папрасіць у яго, каб зравідаваў карову. Калі акажуцца сухоты, дык карова павінна быць прадана на мяса, таму што ніякія лекі тут не памогуць.

## Куток для мацярок.

ДОКТАР РАВІЧ.

### Аб шчапляньні воспы.

Лякарская навука, ня гледзячы на сваё разьвіцьцё, яшчэ ня мае спосабаў, якія маглі-б вылячыць кожную хваробу. Нажаль, часта вельмі а ні вялікая ўмеласьць лекара, а ні найлепшыя стараньні маці ня ў сіле ўратаваць дзіцяці, калі хвароба ўжо разьвілася. Тым мацней мы павінны імкнуцца да таго, каб ухіліць хваробу, папeрaдзіць яе ўзрыў. Спосабы аховы дзіцяці ад хваробы ляжаць перш за ўсё ў дастаўляньні яму найлепшых варункаў разьвіцьця: вялікае колькасьці сьвятла і паветра, ўмелага кармленьня, а таксама якнайбольшае чыстаты, як самога дзіцяці, так і таго, што яго акружае. Усе гэтыя спосабы павялічваюць адпорнасьць дзіцяці і маюць вялізнае значэньне ў барацьбе яго з хваробаю. Але ёсьць і гэткія хваробы, ў якіх гэтае натуральнае адпорнасьці не хапае: яна не папераджае хваробы і не дае гарантыі, што пасьля захварэньня ўдасца ўтрымаць дзіця пры жыцьці. Да гэтых цяжкіх заразных хваробаў належыць натуральная воспа. Даўней яна забірала вельмі шмат ахвяраў і яна страшная ня толькі для дзяцей, але ў роўнай меры і для дарослых. Дзеля гэтага вялікім дабрадзействам для чалавецтва было адкрыцьце вялікага ангельскага лекара Джэннэра (Jenner), які пераканаўся, што пeратрываньне гэтак званае каровяе воспы ахоўвае чалавека ад захварэньня натуральнай воспаю. Ад гэтага адкрыцьця ўжо прайшло больш як 130 гадоў — сягоньня ахоўнае шчапляньне проці воспы распаўсюджылася па ўсім сьвеце і ў шмат якіх краёх зьяўляецца нават прымусовым.

У нас таксама штогоду адбываецца шчапляньне воспы ў паветах і валасьцях і нашыя ўлады моцна пільнуюць, каб усім дзецям была прышчэплена ахоўная воспа: раз на першым годзе жыцьця і паўторна на 7-м або на 9-м годзе. Ад гэтага шчапляньня ня ня трэба ўхіляцца і ня трэба яго закідаць. Але ня ўсім дзецям можна прышчапіць ахоўную воспу ў кожны момант: колькідзённая гарачка дзіцяці або якаянібудзь скураная высыпка можа быць повадам, што пры агульным шчапленьні не захочуць (і слушна) прышчапіць часова хворага дзіцяці. Аднак-жа йдзе аб тое, каб у пэўных выпадках рашаў сам лекар, ці сапраўды дзіця не павінна быць тымчасам шчапляным. А яшчэ большае мае значэньне, каб тое дзіця, якое па якіх-колечы прычынах абмінулі пры агульным шчапляньні, не чакала цэлы год, аж пакуль ізноў прыйдзе чарга на даную вёску, ці валасьць. Як толькі прычына, па якой дзіцяці ня была прышчэплена воспа, прайдзе, дык маці мае абавязак помніць сама аб неабходнасьці прышчапленьня воспы дзіцяці. Ёсьць памылковы пагляд, што воспу можна прышчапляць толькі ў траўні — можна і трэба прышчапляць яе заўсёды, як толькі ёсьць на гэта патрэба. „Kultura“.

## Карэспандэнцыі

### З жыцьця нашае моладзі.

Гэрманавічы, Дзісьненскага пав.

Хачу расказаць аб жыцьці нашае моладзі. Перш за ўсё мушу ад'значыць, што моладзь тутэйшая па нацыянальнасьці беларуская, хоць праўду кажучы, яна гэтага ня ведае, або ведаць ня хоча.

Сумна робіцца, калі прыгледзімся да жыцьця нашае моладзі. Бывае, прыдзецца пагутарыць з таварышамі з суседняе вёскі і калі спытаешся, як ім жывецца, што робяць, дык дазнаешся што ў нядзелю была вечарына ды такая заядлая, што мала калі такая бываець, хлапцы ўсе былі п'яныя, а нат і некаторыя дзяўчаты, і гулялі аж да раніцы. Ну, а больш, што чуваць? А больш, кажа, нічога, ведама як вясной, прадаць няма нічога, заработкаў няма, дык ведаеш — благавата, выпіць трудней — ня тое, што ўвосень. А як зьвядзеш гутарку ў справе якой паважнейшай, напрыклад: ці чытаеце вы газэты беларускія і кніжкі, а мо' хочаце ладзіць беларускі спэктакль, то адтрымаеш адказ такі: „а што нам да гэтага, ёсьць людзі разумныя няхай думаюць аб гэтым, а нам што“? Жудасна чуць гэткія гутаркі асабліва з вуснаў нашае моладзі. Памятайце, браты, што пьянства вядзе да цемнаты і апошняе галіты.

Памятайце аб тым, што ніхто не паруліцца аб нас, калі мы самі аб сваёй долі руліцца ня будзем. Закладайма культурна-гаспадарскія гурткі, стараймася ладзіць беларускія вечарыны-спэктаклі. А перш за ўсё памятайце, што абавязкам кожнага чытаць і шырыць друкованае слова ў роднай мове. Няхай кожны з вас ведае, што праца ваша не прападзе дарма, што і вы ўложыце сваю цагліну ў вялізарны будынак культурнага багацьця народу. Толькі тады, як мы кінем усё благое, а ўсе дружна возьмемся за прасьвету ў роднай мове, калі ў кожным глухім кутку будуць чытаць беларускую кніжку і газэту, толькі тады мы патрапім змагацца з нашай беднатой і цемнатой. Прыбліжаць сьвятлейшыя дні для народу павінен кожны з нас, а не казаць, што на гэта ёсьць людзі разумнейшыя.

Окненадох.

### Спэктакль.

(м. Радашкавічы).

У нядзелю 19 чэрвеня вучні іншае беларускае гімназіі зыгралі астатні ў гэтым годзе спэктакль. Хоць у гэты самы вечар быў і другі спэктакль, але публікі было шмат, так што ў залі ня было ніводнага парожняга месца. Зыгралі п'есу К. Васёлага „Ня розумам сьцяміў, а сэрцам“. Ролю Язэпа Дораша вельмі добра згуляў вуч. VIII клясы гр. Ясюк. Ролю Насты таксама добра згуляла вучаніца Цьвірка. Кастуся і Грушку ігралі вучні VIII кл. Янчуковіч і Адарыч. Асабліва добра згуляў ролю Янкі вучань малодшых клясаў (прозьвішча ня ведаю). Пры яго зьяўленьні на сцэну ўся публіка не магла стрымацца ад сьмеху. Астатні акт вельмі эфэктна закончыўся музыкай і скокамі. Публіка была вельмі задаволена.

*Mortalis.*

## Перад каранацыяй Цудатворнага Вобразу.

Дня 2 ліпня адбудзецца ў Вільні каранацыя Цудатворнага Вобразу Вострабрамскае Божае Маці. На ўрачыстасьць гэную прыбывае ў Вільню Прэзыдэнт Р.-Паспалітай Польскай Ігнат Мосьціцкі, Старшыня Рады Міністраў Язэп Пілсудскі і шмат іншых вышэйшых прадстаўнікоў дзяржаўнае адміністрацыі і духавенства, а таксама шмат пілігрымаў з усіх канцоў Польскае Дзяржавы і з па-за межаў яе. Вільня даўно ўжо рыхтуецца да гэнае вялікае ўрачыстасьці і да прыняцьця далёкіх гасьцей.

Апісаньне гэнае ўрачыстасьці дадзём у наступным нумары „Бел. Дня“.

## Палітычныя навіны.

АНГЛІЯ.

— У Лёндане на гэтых днях адбываюцца нарады аб прадпрыняцьці далейшых крокаў супроць бальшавікоў.

— Ангельскія ўплывы пакіраваныя супроць СССР, адчуваюцца: ў Фінляндыі, Літве, Румыніі, і нават ў Вэнгрыі.

— Ангельцы перакідваюць, апошнім часам, цэнтр цяжару свае вайсковай моцы на паўн.-зах. граніцу Індыі, чакаючы выбуху паўстаньня горцаў, якое падгатаўляецца агентамі Камінтэрну; хто ведае, ці ня будзе гэта знакам зьбліжаючыхся хмар вайны.

С.С.С.Р.

Увесь час адбываюцца замахі на відных прадстаўнікоў савецкае ўлады.

Нядаўна адбыўся замах на старшыню Маскоўскага Ваеннага Трыбуналу гр. Арлова.

Ў зьвязку з гэтым па ўсяму СССР адбываюцца вобыскі і арышты; на гэтых днях ў Менску арыштавана каля 150 асоб, нібыто маючых пэўную арганізацыю, якая манілася зрабіць антысавецкі пераварот.

ЧЭХАСЛАВАЦЫЯ.

Чэшская славянская партыя нац.-соцыялістаў склікала ў Празе мітынг протэсту супроць чырвонага тэрору.

КІТАЙ.

Чан-Кай-Шы вядзе далей барацьбу з камуністымі; па яго прыказу гэнэрал Ян зачыніў ў Нінго колледжы імя Сун-Ят-Сэна Шэ-чуна.

Штодня адбываюцца сьмяротныя прысуды.

— Ў Пэкіне Чанг-Со-Лін перабраўся ў палац прэзыдэнта, адсюль выводзяць, што ён ня думае пакідаць Пэкіну.

## АБО УСІМ ПАТРОХУ.

### Як працуе Амэрыка?

Цяперашняя Амэрыка з яе рэкордамі, мільярдэрамі і г. д. ня можа быць апісана словамі ці зарысована фарбамі або лініямі. Больш-менш можна ўявіць сабе амэрыканскае жыцьцё, глянуўшы на вялізныя фантастычныя цыфры. Гэтак, напр., жыцьцё Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатаў характарызуе той факт, што яны маюць тэлефонаў у тры разы больш, як усе іншыя жыхары зямлі, ўзятыя разам. Да вайны Стары Сьвет быў вінаваты Паўночнай Амэрыцы $4^{1}/_{2}$ мільярды (а мільярд-жаж—1,000 мільёнаў!), а цяпер гэты доўг выраз аж да 13 мільярдаў даляраў.

Усё ў Амэрыцы йдзе навыперадкі. І сёньня тое, што лічылася ўчора вярхом прадукцыі, ўжо засталося ззаду. Найнавейшы небаскроб меў 55 павярхаў, а вось ужо 20 тысяч работнікаў працуюць над 66 паверхным будынкам. Гэты колёс мае 236 мэтраў вышыні (ледзь ня $^{1}/_{4}$ вярсты!) і будзе мець 30 віндаў, але гэты волат яшчэ толькі дзіцянё ў параўнаньні з проектованаю проста ўжо «бабілёнскаю вежаю», якая зможа памясьціць у сабе 36 тысяч чалавек, гэта значыць усіх жыхароў сярэдняга гатунку места!

У Чыкаго штодня прыходзіць 800 цягнікоў. У Нью-Іорку праз скрыжаваньне 42 і 45 вуліцы праходзіць штодня 300 тысяч чалавек і 20 тысяч самаходаў. Ёсьць гэтак шырокія вуліцы, што 20 самаходаў могуць ехаць побач.

У Амэрыцы ўсё сьпяшаецца, прэ наперад. Трамваі езьдзяць вельмі хутка, а ўскокваць і выскокваць на хаду немагчыма, бо дзьвэры замыкаюцца аўтоматычна, адчыняючыся толькі на прыстанку.

Амэрыканец заўсёды думае аб тым, каб як ашчадзіць час, каб не марнаваць яго на асабістыя справункі, дзеля гэтага йдзе ў гэтак званы „паштовы таварны дом“, дзе паводле каталёгу робіць пісьменна свае заказы. Праз найкарацейшы час ён адтрымлівае ўсё, што закажа. Ведама, што на гэта патрэбны грошы. Але-ж не дарма там — край даляраў!

Гэткага роду паштовы дом выпаўняе каля 130 тысяч заказаў у дзень. Напр., аддзел абутку за сэзон выпушчае 38 тысяч пар. У вялізарнай рэзьніцы Сьвіфта ў Чыкаго, якая перарабляе ўсё, што толькі могуць даць сьвіньні і быдла, за год перарабляецца мяса на мільярды. 5 мільёнаў сьвіней казьняць сьмерцю тутака кожны месяц, а праз 18 мінут сьвіное мяса ўжо ператвараецца ў кілбасы і кладзецца ў халадзільнях.

Некалькі цікавых цыфраў паказваюць асабістую заможнасьць некаторых амэрыканцаў. На Park Avenue у Нью-Іорку жыве 4000 мільярдэраў і мільянэраў. На адны толькі кветкі яны выкідаюць у месяц дзесяткі тысяч даляраў.

Аднак, і там ёсьць бедакі. Багацьце і беднасьць, ак тыя валы ў ярме, ўсюды разам ступаюць па грэшнай зямлі!

## Пісьмо ў Рэдакцыю.

Паважаны Пане Рэдактар!

Вельмі ветліва прашу зьмясьціць у Вашай часопісі ніжэй напісанае.

Ў „Сялянскай Ніве“ № 43 21.V. г. г. зьмешчана корэспондэнцыя з Баранавіч (?) пад назваю „Няпрошаны апякун“, у каторай „баранавіцкі“ корэспондэнт робіць закіды нейкаму Цялёўскаму за прыхільнасьць да часопісі „Бел. Дня“ і няпрошаную апеку над беларусамі.

Бачачы, што аўтор корэспондэнцыі з Баранавіч (?) п. Баранавіцкі vel п. К-і памыліўшыся ў сваёй корэспондэнцыі ад пачатку да канца, роўна-ж памыліўся і ў прозьвішчы і ўсё гэта мела мэту датычыцца мяне, то лічу сваім абавязкам з гэтай прычыны ўсё спраставаць:

1) Баранавічы пасьля вайны ня толькі не заміраюць, але наадварот, вельмі шыбка разьвіваюцца: места штогод будуецца цэлымі кварталамі. Як доказ, то перад вайной у Баранавічах было жыхароў каля 5.000, а цяпер больш 15.000, ужо гэты факт кажа, што „баранавіцкі“ корэспондэнт мусіў толькі раз у жыцьці бачыць Баранавічы і то хіба ўночы.

2) Што датычыць маей дзейнасьці, то я ў п. Баранавіцкага канцэсыі на манаполь беларускасьці прасіць ня буду, адсылаю яго, ў гэтым выпадку, да пераконаньня „Сялянскай Нівы“ № 21 18.VII. 26 г.; а ці прошаным, ці няпрошаным, час ад часу быў я апякуном творчых маладых беларускіх душ, то думаю, што ў п. Баранавіцкага хопіць грамадзкай адвагі вызваць мяне, даказаць гэта дакумэнтам і фактамі.

3) Хоць і вельмі неэтычнае пытаньне, з чаго хто жыве, аднак я гатоў супакоіць цікавасьць п. Баранавіцкага, калі ён зробіць гэта самае.

Пісаць усё паважанае ўпаважняе мяне тое, што ў Баранавічах Цялёўскага няма і ён нічога супольнага з „Бел. Днём“ мець ня можа. Шыру ідэю „Бел. Дня“ я, лічачы, што часопісь „Бел. Дзень“ вучыць нашых сялян культуры, а ня вульгарных лаянак.

У доказ праўдзівасьці ўсяго вышэйнапісанага сьмела бяз ілжы падпісваю ніжэй, як сваё прозьвішча, так і месца жыхарства.

Ф. Цяўлоўскі.

м. Баранавічы.

Ад Рэдакцыі: У дадатак да раней надрукованых пісьмаў-спраставаньняў, друкуем гэтае пісьмо п. Цяўлоўскага і лічым, што на гэтым можна і скончыць полеміку з ілжывымі інфармацыямі „Нашае Праўды“ і „Сялян. Нівы“ ў справе п. Цяўлоўскага.

## Паштовая скрынка.

С. Белайцу. Выслалі вам грошы. Рэшту вышлем па выдрукаваньні.

Я. Хаданёнак. Грошы выслалі, корэспондэнцы зьмесьцім.

А. Іваноўскі. Бракуючыя нумары газэты вышлем. Корэспондэнцыі зьмесьцім, прысылайце далейшыя.

А. Міхальчык. Выслалі да Вас пісьмо з адказамі на Вашыя пытаньні.

Гунька. Усе нумары газэты акуратна высылаюцца Вам. Падайце рэклямацыю на пошце.

Окшус. Адказ вам дадзены ў № 12 „Бел. Дня“ „пад № 9“. Корэспондэнцыя няцікаўная.

Чычынка. Прышлеце свой дакладны адрэс і імя сваё

Дэшкоўскі. Адказы на пытаньні дамо ў наступным нумары газэты.

Сялянскі. Корэспондэнцыя „Коопэрацыя і сялянства“ будзе выкарыстана і апісаныя факты пададзены да ведама.

Прага Чэская. Ад. Клімовічу. Рэдакцыя ня мае маральнага права назваць сапраўднае прозьвішча свайго корэспондэнта, які пішаць пад псэудонімам. Калі корэспондэнцыя „Прысутнага“ не адпавядаець праўдзе, то просім напісаць у чым, а ў сваім пісьме, нажаль, Вы не падаеце а ніводнага факту, а толькі просіце выдаць прозьвішча „Прысутнага“. Гэтак мы зрабіць ня можам, ды і ніводная рэдакцыя гэтак-бы Вам не зрабіла, а надрукаваць Вашае пісьмо, дзе Вы хочаце, каб „Прысутны“ сам раскрыў сваё прозьвішча ня лічым патрэбным, бо ў корэспондэнцыі яго ня бачым ніякае асабістае зьнявагі па Вашым адрэсе, а калі ёсьць факты нязгодныя з рэчаістасьцю, дык напішэце, тады мы выдрукуем.

## Ад рэдакцыі месячніка «Беларуская Культура“.

Адтрымліваюцца пісьмы з просьбаю выслаць пробны нумар часопісі „Беларуская Культура“.

Гэтым рэдакцыя месячніка паведамляе, што бясплатна часопісь нікому высылацца ня будзець, апрача тых, чые творы будуць выдрукаваны. Заказы на часопісь прымаець рэдакцыя газэты „Беларускі Дзень“.



Рэдактар-выдавец Ф. УМЯСТОЎСКІ

Выд. Т-ва „Pogoń“ Друк. „Рах“, вул. Сьв. Ігната 5.